# Голас Радзімы

№ 44 (2186)
1 лістапада 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.





У адной з лабараторый эксперыментальнай базы «Майск» Івацэвіцкага раёна можна ўбачыць, як у стэрыльна чыстых прабірках вырошчваюць аздароўлены сартавы матэрыял. Мікраскапічныя расткі жывіць спецыяльны раствор з дваццаці кампанентаў. Адпавядаюць маленькаму кусціку бульбы і яго клубні — крыху большыя за звычайныя гарошыны. Нягледзячы на памеры насеннага матэрыялу, ураджайнасць аздароўленых сартоў выдатная. За такім безвірусным матэрыялам будучыня бульбяных плантацый. Атрыманыя тут клубні вызначаюцца высокай устойлівасцю да розных захворванняў. Не толькі праблемамі бульбаводства займаецца калектыў эксперыментальнай базы. Значных поспехаў дасягнулі тут у галіне біятэхналогіі, аграхімічнага кантролю глебы, трансплантацыі зародкаў буйной рагатай жывёлы.

НА ЗДЫМКАХ: аграхімічны аналіз глебы праводзяць Г. РЫЛІНА і А. КАВАЛЬЧУК; тэхнікі-лабаранты С. КАСАВЕЦ і Н. СЕМЯЧКА назіраюць за развіццём саджанцаў у стэрыльным асяроддзі; у боксе цэнтра трансплантацыі праводзяць даследаванні спецыялісты муж і жонка Людміла і У. БАБЯНКОВЫ; саджанец у прабірцы; так выглядаюць мікраклубні бульбы.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.







## *НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# З НАДЫХОДАМ ВОСЕНІ

З надыходам восені прырода становіцца нібыта соннай. У канцы кастрычніка злятае апошняе лісце. Шчыльны рознакаляровы дыван пакрывае зямлю. Усё часцей неба зацягваецца густымі хмарамі, з якіх імжыць дробны халодны дождж.

Але надвор'е ў кастрычніку ўсё ж зменлівае і неаднолькавае. То некалькі дзён запар, без перарыву, ідуць дажджы, то падзьме шквалісты вецер, а то і невялікі марозец пакрые ўвільготненую зямлю тонкай цвёрдай скарынкай.

А то раптам наладзіцца зусім цёплае, амаль летняе надвор'е. І здараецца гэта, як правіла, у першай палавіне месяца. Здавалася б, ні з таго, ні з сяго адчуеш раптам цёплы прыток паветра з поўдня, сонца на развітанне засвеціць зноў шчодра і ласкава, неба ачысціцца ад хмар. Такі восеньскі зварот цяпла адбываецца ў кастрычніку амаль штогод і працягваецца некалькі дзён, а то і тыдняў. Нібыта створана гэтая пара спецыяльна для жанчыны-працаўніцы, якая ў штодзённых клопатах не ўбачыла, як праляцела лета, і не паспела адчуць яго прыгажосці. І вось прырода, не жадаючы пазбаўляць яе гэтай радасці і кароткага адпачынку, на нейкі час зноў вяртае для яе кавалачак лета. Таму і называецца гэтая пара ў народзе — «бабіна лета».



Але потым зноў надыдуць халады. Ад пастаянных працяглых дажджоў разбухае глеба, поўнасцю спыняецца рост раслліннасці, апалае лісце і завялая трава пачынаюць загніваць.

Адлятаюць у вырай апошнія чароды птушак: берасцянкі і аўсянкі, дразды (пеўчыя, чорныя, белабровікі), шпакі і гракі. Рушыць у далёкі шлях пралётная паўночная качка, што затрымалася на мясцовых вадаёмах, позняя гусі. Апошнімі замыкаюць пералётныя ключы дразды-рабіннікі. Цяжкая гэта дарога, доўгія беспярапынныя пералёты над морам удзень і ўночы, у дождж і вецер.

На месца адляцеўшых на поўдзень птушак прыбываюць калоніі новых, тых, што адкачавалі з поўначы і застаюцца зімаваць тут. Да прыляцеўшых у верасні каралькоў і пуначак далучаюцца чырванагрудыя снегіры, чубатыя амялушкі, шчабятлівыя чачоткі. І пайшлі латашыць гронкі рабіны, што ўрадзіла на славу. Пач[illegible]цца рабінавы баль.

Розныя жывёлы па-рознаму рыхтуюцца да зімы. Зніклі кажаны. Яны «акупіравалі» дуплы дрэў, гарышчы закінутых хлявоў, падвалы і заснулі там уніз гал[illegible]о, прычапіўшыся кіпцюра[illegible]адніх ног да столі.

Змеі, яшчаркі і жабы, забраўшыся ў норкі, трухлявыя пні і пад карэнне дрэў, нібыта дранцвеюць, паступова пераходзяць у спячку.

Апранаюць больш цёплае футра звяры. Пасвятлелі брушка і бакі ў зайца-русака, а спінка з рыжай стала шэранькай. Бяляк ужо пачынае апранацца ў зусім белы кажушок, але не адразу, а па этапах. Спачатку бялеюць ногі, заяц, як гавораць, «надзявае порткі», затым — бакі, і толькі потым пабялее цалкам. Добра яму будзе зімой, а цяпер не зусім: белыя плямы далёка відаць, даводзіцца пакуль адседжвацца ў гушчары.

Пераапранулася і вавёрка. Пабялелі гарнастай і ласка, толькі кончыкі хвастоў чорнымі засталіся. Яны таксама з нецярплівасцю чакаюць снегападу: тады маскіроўка будзе забяспечана.

Шукае месца для спячкі янот. Але класціся не спяшаецца. Пакуль яшчэ можна, нагульвае тлушч — ловіць аслабелую рыбу і жаб, падбірае рэшткі салодкіх фруктаў і гародніны, забіраецца ў птушнікі.

Усё павольней рухаюцца на глыбіні рыбы. Закапаліся ў глей водныя насякомыя, малюскі, п'яўкі. А вадзяны павук знайшоў пустую ракавіну куклянкі, начапляў на яе сценках пузыркоў паветра, а сам у сярэдзіну яе залез — цёпла павуку, паветра, як коўдра: і холад не прапускае, і цяпло трымае. Усё бліжэй зіма.

**В. СТОМА.**



**З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ**

## ОЙ, ПОЙДЗЕМ, СЯСТРЫЦЫ







Ой, пойдзем, сястрыцы,
Пад ясну зарніцу.
Ноч малая, ды купальная!
Набярэм, сястрыцы,
Жоўтага пясочку.
Іграй, сонца, і з зарою!
Пасыплем, сястрыцы,
У таткі пад аконцам.
Ноч малая, ды купальная!
Пасеем, сястрыцы,
Белага гарошку.
Іграй, сонца, і з зарою!
Гарошку не ўзысці, —
Мне ў таткі не быці.
Ноч малая, ды купальная!

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Звяртаемся з просьбай і спадзяёмся, што газета «Голас Радзімы» дапаможа нам адшукаць нашых родзічаў за мяжой.

У далёкім 1910 годзе **ФЕДАРЭНКА Улас Пятровіч** паехаў са сваёй жонкай Варай і дачкой Ганнай (4 гады) у Амерыку ў пошуках лепшага жыцця. Да гэтага жыў ён у вёсцы Вуглы Брагінскага раёна Гомельскай вобласці (тады гэта былі Мінская губерня, Рэчыцкі павет, Брагінская воласць). Паехаў і не вярнуўся, хоць вельмі ім хацелася вярнуцца на Радзіму, як яны пісалі ў свой час родзічам. Ды куды вярнуцца, калі не было ні зямлі, ні хаты. Так і засталася сям'я ў Амерыцы. Жылі яны ў горадзе Пітсбургу. Там нарадзілася ў іх яшчэ чацвёра дзяцей. Даўно ўжо няма ў жывых ні Уласа Пятровіча, ні яго жонкі. Перапіска з імі была спынена незадоўга да Вялікай Айчыннай вайны. Але мы спадзяёмся, што жывыя іх дзеці, унукі. Магчыма, хто-небудзь з іх ведае мову бацькоў.

Нам, родзічам, вельмі хочацца адшукаць дзяцей ці ўнукаў Уласа Пятровіча і даведацца пра іх лёс. Можа хто-небудзь у Амерыцы адгукнецца на наш голас. Думаем, што ім неабыякавая Радзіма іх бацькоў.

Высылаем фатаграфію, дакладней, копію фатаграфіі, прысланай з Амерыкі (год не ведаем). На фатаграфіі Улас Пятровіч са сваёй жонкай Варай, дачкой Ганнай і двума сынамі (імя якіх не ведаем) каля сваёй хаты.

Ад імя ўсіх родзічаў **Ганна ЛЯВОНЕНКА.**

Пісаць нам на адрас: **Гомельская вобласць, Брагінскі раён, вёска Вуглы, ЛЯВОНЕНКА Г. П.** або на адрас рэдакцыі.




**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**НАШ АДРАС:**
**220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 1422.